## ТОЛЬКІ ТАК!

# СПРАВАВОДСТВА па-БЕЛАРУСКУ!

Снежань 2014

Тэматычны неперыядычны дадатак да газеты "Гомельскія Навінкі"

## У НУМАРЫ:

- ТЭСТАМЕНТ (што дапаўняе папярэдні)

- ТЭСТАМЕНТ (на ўсю маёмасць аднаму спадкаемцу з накладаннем на яго абавязкаў па выплаце перыядычных плацяжоў)

- ТЭСТАМЕНТ (на асобныя віды маёмасці з размеркаваннем маёмасці паміж спадкаемцамі)



**ТЭСТАМЕНТ**

*(што дапаўняе папярэдні)*

Горад Гомель, Рэспубліка Беларусь, Першага кастрычніка дзве тысяча трынаццатага года.

Я, *Прозвішча Імя Імя па-бацьку*, пражываючы ў горадзе Гомелі, вуліца Багдановіча, дом ___, кватэра ___, сапраўдным тэстаментам дапаўняю распараджэнне, зробленае мной у тэстаменце, завераным дзяржаўнай натарыяльнай канторай Цэнтральнага раёна №1 горада Гомеля 7 жніўня 2012 года па рэестру за №3-48, і іменна:

усю маёмасць, не згаданую ў вышэйпазначаным тэстаменце, якая да дня маёй смерці будзе мне належыць, у чым бы яна не змяшчалася і дзе б яна не знаходзілася, я пакідаю ў спадчыну маёй жонцы *Прозвішча Імя Імя па-бацьку*.

**ТЭСТАМЕНТ**

*(на ўсю маёмасць аднаму спадкаемцу з накладаннем на яго абавязкаў па выплаце перыядычных плацяжоў)*

Горад Гомель, Рэспубліка Беларусь, Першага кастрычніка дзве тысяча трынаццатага года.

Я, *Прозвішча Імя Імя па-бацьку*, пражываючы ў горадзе Гомелі, вуліца Багдановіча, дом ___, кватэра ___, сапраўдным тэстаментам раблю наступнае распараджэнне:

усю маёмасць, якая да дня маёй смерці будзе мне належыць, у чым бы яна не змяшчалася і дзе б яна не знаходзілася, я пакідаю ў спадчыну майму сыну *Прозвішча Імя Імя па-бацьку*.

Ускладаю на *Прозвішча Імя Імя па-бацьку* выкананне наступнага абавязку:

здзяйсняць перыядычныя плацяжы на карысць установы спорту "Хакейны клуб "Гомель", размешчанага па адрасе горад Гомель, вуліца Мазурава, дом 118, у памеры 300 000 (трыста тысяч) рублёў штомесячна напрацягу 30 (трыццаці) гадоў.

**ТЭСТАМЕНТ**

*(на асобныя віды маёмасці з размеркаваннем маёмасці паміж спадкаемцамі)*

Горад Гомель, Рэспубліка Беларусь, Першага кастрычніка дзве тысяча трынаццатага года.

Я, *Прозвішча Імя Імя па-бацьку*, пражываючы ў горадзе Гомелі, вуліца Багдановіча, дом ___, кватэра ___, сапраўдным тэстаментам раблю наступнае распараджэнне:

з маёмасці, што мне належыць:

- аўтамабіль маркі “ВАЗ-2105” 1982 года выпуска я пакідаю ў спадчыну свайму брату *Прозвішча Імя Імя па-бацьку;*
- долю ва ўстаўным фондзе таварыства з абмежаванай адказнсцю “Гомельшклометал” (рэгістрацыйны нумар ________) як пакідаю свайму сыну *Прозвішча Імя Імя па-бацьку.*

*“Справаводства па-беларуску!-2014”*

M&S MEDIA

Тэматычны неперыядычны дадатак да газеты "Гомельскія Навінкі" *“Справаводства па-Беларуску!”*
Уладальнікі выдання ***M&S Media***

Заснавальнік: *Францыск Піцерскі*
Галоўны рэдактар: *Алесь Пыхаў*
Карэктар: *Мікола Хмызняк*

246050, г. Гомель, вул. Пуліхава, 17, рэдакцыя “Гомельскія Навінкі - Справаводства па-Беларуску”

Надрукавана на Папяровай фабрыцы “ГумНо”, г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 17б.

Тыраж: 250 асобнікаў.

Распаўсюджваецца безкаштоўна.




**Архіў газеты "Справаводства па-беларуску!" ў Беларускай інтэрнэт-бібліятэцы KAMUNIKAT:**
http://kamunikat.org/spravavodstva_pa_bielarusku.html
**Архіў УКантакце:** http://vk.com/docs?oid=-19441275

*Мы ў сацыяльных сетках:*
***vk.com:*** spravavodstva_pa_belarusku
***facebook.com:*** spravavodstva

Наш ***e-mail:***
**gnavinki@gmail.com**

M&S MEDIA